# ЗЬМЕСТ.





Ворша, друк. выдав. газ. „Кам. шлях“ зак. 2389—1500 паас. Аршакрліт (Бел) 12618

*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*

# Аршанскі МАЛАДНЯК.

Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў МАЛАДНЯК.

№ 2 | ЛІСТАПАД | 1925

## Ад рэдакцыі

Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў Маладняк, праз арганізацыю сваіх філій, ставіць аснаўным заданьнем зьбіраньне і аб'еднаньне творчых мастацкіх сіл, сярод рабочай і сялянскай моладзі Беларусі.

Культурнае адраджэньне Беларусі на аснове ўзросту эканамічнага дабрабыту, вымагае актыўнага ўдзелу рабоча-сялянскай масы ў культурным будаўніцтве.

Бо гэтае культурнае будаўніцтва павінна стаць ня толькі адным з сродкаў далейшага замацаваньня нашых рэволюцыйных заваёў, але павінна стаць адным з сродкаў і далейшых новых рэволюцыйных заваёў, служыць справе рэволюцыі, справе перамогі пролетарыяту, дзеля пабудовы сацыялістычнага ладу жыцьця. Гэта зьяўляецца аснаўной мэтай і Маладнякоўскага аб'яднаньня як часткі агульна культурнага будаўніцтва.

Наша выяўленчаскае мастацтва павінна быць цалкам сваім, рабоча-сялянскім, выяўляючым жыцьцё, быт, імкненьні й перажываньні працоўных мас і безумоўна багаціць яго, паглыбляць і разьвіваць могуць і павінны толькі самі працоўныя, толькі самыя шырокія паслоі рабочых і сялян.

І адгэтуль, заданьне нашай Аршанскай філіі Маладняка, выявіць і прыцягнуць да творча-мастацкай працы усю здольную к гэтаму працоўную Аршаншчыну, нявычарпаныя крыніцы здольнасьці рабочых і сялян вакругі.

І першы, хто павінен прыці на дапамогу нам, гэта наш *Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі*. Уросшы ў самыя гушчы працоўных і яўляючыся яго перадавым авангардам, камсамол Аршаншчыны павінен адазвацца першым, ня толькі вылучаючы з сябе здольную к мастацка-творчай працы моладзь, але шырака пашыраючы нашы мэты заданьні, як і зробленыя ўжо намі дасягненьня сярод рэштнай працоўнай моладзі, прыцягваючы й апошніх к нашай працы.

Патрэбна, каб кожная камсамольская ячэйка, кожны культурна-асьветны гурток, кожная хата чытальня, клюб, нардом і іншыя культурна-асьветныя ўстановы і арганізацыі сталі з другога боку сваей працы літэратурна-мастацкім маладнякоўскім гуртком і, пад кіраўніцтвам нашай філіі і Ц. Б. Маладняка, зьявіліся-б дзеля моладзі тэй студыяй, адкуль-бы Беларусь замела цэлыя шэрагі новых працаўнікоў творчага мастацтва.

Але гэтая праца не павінна быць працай выключна камсамольскіх арганізацый. Нашы *профэсіянальныя аб'яднаньні* і іх паасобныя сябры, а гэтак-жа ўсе *культурна-асьветныя працаўнікі* як вёскі, так і гораду павінны дапамагчы гэтаму.

І асабліва вялікія надзеі ў пашырэньні й разьвіцьці нашай маладнякоўскай працы, мы ўскладаем на *настаўніцтва*, якое, працуючы сярод сялянскіх гушчаў, вядучы паміж іх культурна-асьветную працу, можа шмат зробіць у сэнсе зьбіраньня і аб'яднаньня творча-мастацкіх сіл, як і сваёй перадавой часткай папоўніць шэрагі Маладняка.

Пачатак Маладнякоўскай працы па Аршаншчыне, арганізацыя філіі і выхад першага нумару нашай часопісі, сустрэў вялікую прыхільнасьць і знайшоў жывы водгук сярод моладзі нашай акругі.

Цэлы шэраг корэспадэнцый, пісьмаў сьведчаць нам што арганізацыя Аршанскай філіі Маладняка зьявілася ня толькі патрэбнай, але й своечаснай.

... „Прызнаюся, што чуць не расцалаваў першы нумар Аршанскага Маладняка, калі атрымаў яго ў Круглым, нават накінуў невялічкі верш прывітаньне Маладняку, калі апрацоўка ўдасца, прышлю...“ так сустрэў арганізацыю філіі, выхад першага нумара нашай часопісі вясковы камсамолец Круглянскага раёну. Другі вясковы камсамолец Мяжэвіч, Копыскага раёну, малапісьменны, зразу думку першагаператварае ў жыцьцё і прысылае свой верш—прывітаньне: „Першая Ластаўка.

Кніжка сабою саўсім невялічка—
Ў веску што к нам прывязьлі,
А мяне запаліла, ўсё адно што сярнічка,
Мне як у рукі далі.
Ворша мае сваі дасягненьні
Будзе Аршанскі расьці Маладняк“...

і цэлы шэраг другіх у гэтакім сэнсе. Іншыя пытаюць: „ці можна пісаць у Маладняк вясковаму хлопцу свае творы, калі яны саўсім слабыя“... іншыя, як можна стаць сябрам Маладняка, каб стаць актыўным яго працаўнікам?

Пісаць вясковаму хлапцу ня толькі можна, але й патрэбна, у гэтым грунт нашай далейшай працы, а „Маладняк“ пастараецца дапамагчы, ка-б пачаўшы з слабых твораў, можна было даць сапраўдна прыгожыя, укласьці багаты скарб у скарбніцу Беларускай культуры.

**М. Ганчарык.**

М. Зарэцкі

# Пра майго прыяцеля.

(Апавяданьне)

Я ня буду расказваць пра майго прыяцеля наогул, а раскажу толькі пра маю апошнюю сустрэчу з ім, якая, трэба сказаць, ускалыхнула ўсе мае пачуцьці й прымусіла мяне на ладны час аддацца самым сурьёзным і глыбокім думкам-разважаньням.

У пякельна-гарачы ліпнёвы дзень я мерыў млявымі крокамі вузенькую, залітую сонцам, пылам і агідным пахам вулку невялічкага гораду. Нутро маё абцягвалася сьлізка-цягучай цінай нудоты, а галаву поўніў нейкі тлумны туман. Хацелася пайсьці куды небудзь, ды ня было куды, бо горад чужы, незнаёмы. Так і хадзіў бяз усякае мэты, нікаў па шэрых распараных вулках.

На ганках аднае ўстановы сядзела колькі хлапцоў, відаць-камсамольцаў. Ня гледзячы на нясьцерпную сьпякоту, яны гутарылі надта жвава і многа сьмяяліся. Я-б мо не зьвярнуў на іх свае ацежалелае ад сонечнага ваду ўвагі, каб не злавіў сярод мешаніны іхнай гаворкі і сьмеху прозьвішча свайго прыяцеля. А пачуўшы гэтае блізкае, так знаёмае мне слова, я ўжо ня мог ісьці далей. Я стаў і зьвярнуўся да хлапцоў:

— Выбачайце! Якога Харкавіцкага вы памінаеце? Яго ня Міколам, часам, завуць?

Хлопцы ўраз сьціхлі і пракалолі мяне цікавымі ўсьмешкамі. Адзін азваўся:

— Як раз гэты самы.

— Ён хіба тут жыве?

— О, вядома, што тут!

Некаторыя пырснулі.

— А вы ня ведаеце яго адрасу?

Мне сказалі.

— А ці ня ведаеце, калі можна яго ў хаце засьпець?

Хлопцы грыманулі дружным хорам:

— О, калі хочаце... У любы час... У любы момант...

Я нырнуў у пыл і шпарка папёр у той бок, дзе, як паказалі, жыў Харкавіцкі. Нешта падмывала з нутра такім радасным-радасным, зацінала нават дыханьне і выціскала з вока няслухмяную ўпартую сьлязіну. А ў вушшу няўпынна дрынчэла.

— Мікола... Мікола... Коля... Колька...

І стаяў у воччу Харкавіцкі, быццам жывы.

Я неўзабаве адшукаў паказаную мне кватэру. Увайшоў не пазваніўшы, бо званка не аказалася. З сянец у пакой дзьверы былі расчынены. Я спыніўся і азірнуў.

Я адразу ўбачыў Міколу. Ён зусім мала зьмяніўся. Толькі па твару разьлілося нешта рахманае, ціхае, пакорнае. Гэты новы выраз на

мой погляд зусім не прыставаў да Міколы, якога я знаў з самага маленства, як заўзятага аторву й буяна.

З момант я глядзеў на Міколу, астаючыся сам незаўважаным. І я разгледзіў, што ён сядзіць на зэдліку і што нага яго падвешана на пачопку, а пачопка прычэплена да таго апарату, у якім звычайна гадуюць малых чалавекаў. Я ня ўгледзіў і не пачуў гэтага малога чалавека, але ён быў тут напэўна, бо яго сяліба аднамерна і плаўна баўталася разам з Міколавай нагой. Няма ведама чаму, мне раптам шкода стала Міколу. І мабыць пад уплывам майго жаласьлівага погляду, ён узьняў галаву і зірнуў на мяне.

У вачох у яго загарэлася такое жаркае, такое бурлівае полымя радасьці, што я ня ўтрываў і кінуўся да яго з поўным душэўнага імпэту гвалтам:

— Мікола!

Але ўраз я спыніўся. Я ўбачыў, як востры, агнёвы спалох скрывіў яго твар у страшную грымасу. Сам ён перагнуўся ў тры, а можа й болей, пагібели і засіпеў, махаючы на мяне вялізным нажом:

— Сссссс....

Я аслупянеў. Ён, відаць, заўважыў гэта, кінуў сіпець і падбадрыў мяне ласкавай усьмешкай, прапусьціўшы скрозь зубы прыдушаным шэптам:

— Ціху, дзяцёнка розбудзіш.

Тады я заўважыў яшчэ, што нож у яго толькі ў аднэй правай руцэ, а ў левай—бульбіна. А між ног невялічкі цабэрак з вадой. І зноў невядома чаго, мне стала шкода прыяцеля. Я нават не прывітаўшыся з ім, сеў поплеч на зэдліку і пахіліў галаву.

Часінку мы абодва маўчалі. Потым пачалі шаптацца.

Я першы шапнуў:

— Расказвай.

Ён глыбока ўздыхнуў і сказаў:

— Ты пэўна, бачыш што я ўжо жанаты.

Я таксама ўздыхнуў і адказаў:

— Бачу. І даўно ты замуж... тое... жаніўся?

— Больш году ўжо.

Мне неяк стала не па сабе. Я хацеў аб нечым яго папытаць, ды чамусьці ня важыўся: нялоўка было. І ён, мусіць, адчуў мой настрой. Ён перабег раскіданым поглядам у бок ад мяне, шыбчэй пачаў лупіць бульбіну і загаварыў неяк вінавата, саромліва:

— Я служыў раней. Толькі з паўгода, як безработны. А жонка служыць... У фінадзеле працуе. Я пакуль што па хатняй частцы; вось поркаюся з living бульбай, капустай, дзяцёнка даглядаю...

Ён змоўк. Тады я папытаў з вялікай цікавасьцю:

— Ну й як?

— А нічагутка. Добра жывецца. Жонка цяпер ладныя грошы бярэ - сем чырванцоў у месяц, хапае на усё. Вось толькі харчы ўсё даражэюць. Ты знаешь, па чом цяпер мяса? — па 30 капеяк. Ды й то ня

мяса а няма ведама што: адны косьці ды плеўкі. Укінеш у суп — ні мяса табе, ні навару. А мужыкі як дзяруць! Учора на рынку я парасёнка нагледзіў — маленькі такі, хунтаў 7-8. Хацеў купіць, бо мая, ведаеш, дужа любіць, калі гэта з начынкай, з перчыкам, з цыбулькай. Дык што-ж-бы ты думаў? — Не падступіся...

Я слухаў яго апавяданьні і мне неяк страшна рабілася. Я проста не пазнаваў свайго прыяцеля, таго жвавага. энэргічнага, разумнага хлапца, якога я ведаў тры гады таму назад. Галаву маю балюча сьвідравалі назольлівыя думкі—ящчэ няясныя, неафармаваныя, але такіяж глыбокія, такія сур'ёзныя, што мне ажно цяжка ад іх станавілася. Да такіх думак не прызвычаіўся я.

Урэшце ўжо мне ня ў суцерп стала слухаць Міколу. Я памкнуўся зьмяніць тэму гаворкі і перапыніў яго, тыркануўшы пальцам у калыску:

— Ну, а гэта?

У гэты момант нешта запішчэла і засіпела ў печы, і Мікола рынуў туды, пакінуўшы ля мяне нож, недалупленую бульбіну і цабэрак. Вярнуўшыся, ей зноў загаварыў:

— Пра сына пытаешся? О, ён маладзец, такі крэпенькі, здаровенькі хлопчык. Надовечы нешта з жывоцікам у яго кепска зрабілася. Я ўстурбаваўся ўжо, зараз панёе яго ў больніцу. Ну там агледзілі, кажуць-глупства, на зубкі. У яго ўжо во-во зубкі прарэжуцца...

Ізноў мне цяжка было яго слухаць. Ізноў мяне апанавалі тыя глыбокія, сур'ёзныя думкі. І йзноў яны былі няясныя, неафармаваныя, бо я ня прывык да гэткіх думак. Цяпер я ўжо зусім забыўся, што гэта за думкі былі, але добра помню, што яны датыкаліся жанчыны, яе прыроды, організму, яе месца ў соцыяльным ладзе нашага жыцьця і г. д. Адным словам — сур'ёзныя думкі.

Мікола тым часам сьціх і аб нечым глыбока задумаўся. Мне ў трэці раз стала да болю шкода яго. Мне захацелася пранікнуць у самае нутро яго, выведаць яго самыя патаёмныя перажываньні. Я сабраў усю сваю прыяцельскую пяшчоту, паклаў сваю руку на яго плячо і сказаў вельмі чулым і вельмі ласкавым голасам, які, як мне здалося, нават дрыжэў ад навалы шчырага пачуцьця.

— Слухай, прыяцель Мікола. Скажы ты мне шчыра й адкрыта так як мы даўней з табой гаварылі, як табе падабаецца тваё сучаснае жыцьцё?

Але ў гэты момант разам запішчэла і ў печы і ў калысцы. Мікола замітусіўся па хаце, потым кінуўся к печы, крыкнуўшы мне па дарозе:

— Калышы!

Я зачапіў сваю нагу за пачопку і пачаў баўтаць. Я баўтаў, дзяцёнак пішчэў, а Мікола ўлез да палавіны ў печку і нешта арудваў там. Праз момант ён дастаў з печы сваю галаву, абярнуў яе да мяне і закрычаў, як ашпараны:

— Вазьмі, братка, на рукі. Вазьмі хутчэй.

Я ніколі ня меў ніякіх спраў з малымі людзьмі, і таму мне вельмі нязручна было трымаць на руках гэты маленькі мякенькі камочак. Але я ўсё-ткі трымаў, а камочак усё-ткі пішчэў. Мікола-ж тарчэў з печы сваёй ніжэйшай палавінай. Цяпер мне ў чацьвёрты раз стала вельмі-вельмі шкода Міколу. На маё шчасьце ў гэты момант адчыніліся дзьверы і ў пакоі зьявілася Міколава жонка.

Я да жанчын невялікі прыхільнік. Але трэба прызнацца, што жонка Міколава мне ўпадабалася. Я люблю, калі жанчына здаровая, сьвежая, сакавітая. А Міколава жонка, хоць і невялікая ростам, але так і пыхала гэтым здароўем і сьвежасьцю! І вочы ў яе былі ясныя, бадзёрыя, сьмелыя, што мне да ўпадобы таксама. Як увайшла, яна перш-на-перш пяшчотна так, ласкава цмокнула ў запэцканы сажаю Міколаў лоб сказаўшы:

— Добры дзень, мая гаспадынька!

Потым падыйшла да мяне, ахінула мяне сваім ветлым ласкавым поглядам і, што мяне асабліва ўзрадвала, узяла з маіх рук піскліва камочак.

Мы хутка з ёй разгаварыліся. Гаварылі больш пра палітыку, пра міжнароднае становішча нашай рэспублікі і г. д. Наогул, пра самыя глыбокія й сур'ёзныя рэчы. А Мікола тым часам канчаў свае гаспадарскія справы. Мне ў пяты раз стала шкода Міколу і мяне зноў апанавалі назольлівым роем цяжкія думкі, ізноў я думаў аб жанчыне, аб яе гаротнай долі:

У часе абеду жонка сказала Міколу:

— Ну, Коля, хутка ўжо я дам табе волю. Сына гэтымі днямі ў яськлі аддам, а палуднаваць будзем хадзіць у сталоўку. І трэба будзе як небудзь знайсьці табе працу..

Мікола не адказаў. Але вочы яго зайскрыліся радасцью. Я гэта добра заўважыў і гэта дало мне адказ на тое запытаньне, на якое Мікола ня ўправіўся мне адказаць.

Калі я вышаў ад свайго прыяцеля і зноў нырнуў у поўныя пылу і душнага сонца завулкі, мне было цяжка. Нешта падмывала з нутра такім сумным, маркотным, зацінала дыханьне і выціскала з вока няслухмяную ўпартую сьлязіну.

А ў вушшу пяўпынна зьвінела:

— Бедны Мікола... Бедны Коля...



Мурашкевіч.

# Чырвонаармеец.

## (АПАВЯДАНЬНЕ)

I.

Зорная ноч.

На ўсходзе небасхіла выпаўзае чорная цёмная хмара, як разлахмачанае вагромістае чудзіла.

Мігацяць сузор'я, пасылаючы свой бледны сьвет. Слаба падыхае цёплы паўднёвы вецярок...

Ціха сьпіць у гэты момант невялікая беларуская вёска Д.....

Стаіць прыёмны пах пладовых красак, якія, як сьняжінкі, пераліваюцца на тысячы колераў пад праменямі месяца.

Нідзе ні душы. Усё супакойна пасьля дзённай працы. Толькі дрэвы, часамі зашапацяць сваімі лісьцейкамі, ад прабегшага ветрыка ды зноў супакойна ўсё.

Але за ваколіцай, у памяшканьні мясцовай школкі блішчыць аганёк. Толькі там хтось ня сьпіць і марудзіць свой час у нейкім клопаце.

II.

У школе гадзіну таму назад, скончыліся заняткі гуртка беларусазнаўства вясковага культаварыства.

Прысутныя, па сканчэньню працы пад гучныя гукі „ад веку мы спалі“, разышліся і ужо даўно сьпяць, і толькі кіраўнікі: чырвонаармеец вайсковай часьці з настаўніцай, засталіся абмеркаваць плян далейшай сваей працы.

— Па першае, шчыра дзякую, кажа настаўніца, што спраўджваеце свае словы і з'яўляецеся к нам, гэтым мы паглыбляем нашы заняткі азнаямляем сяброў з Беларускай гісторыяй і літаратурай.

— За гэта няма чаго і дзякаваць. Абавязак кожнага сьвядомага грамадзяніна—прагнуцца перадаць другім тыя веды, якія ён здабыў самаадукацыяй, якія яшчэ дагэтуль невядомы шырокім колам сялянства і яе моладзі.

— Так, гэта абавязак кожнага... Але, ведаеце, працуючы вось тут, у гэтай школцы ўжо трэці год, я часамі губляю надзею, што мая праца будзе карыснай, што яна дасьць які плён і гэтая думка страшэнна гняла мяне, нават ахаладжвала мяне ў працы...

— Многага Вы не заўважваеце самі,—казаў чырвонаармеец—што тут пасеяна Вамі, Вашай працай. Сяляне пра Вас мне казалі многа, да і за нарадамі яны у Вас бываюць, відаць, часта—я заўважыў.

— Можа... ня ведаю... Але гэта дапамога Ваша яна мяне ажывіла неяк, вярнула мне шмат ранейшай дзявочай бадзёрасьці... Мы будзем сумесна старацца вучыць, і вучыцца самі адначасна...

— Вы мне казалі, як пужала раней Вас беларуская мова, мова мацеры, мова дзяцінства, якую толькі так старанна выбіла з Вас русафікатарская школа. Вы нават згодны былі казаць ужо, што беларускай мовы няма, што яна выдумана. А разам з тым, Ваша матка дапамагала тлумачыць Вам тыя словы, якія прыходзілася старанна вышукваць у

слоўніку. І гэта нібы прывяло Вас к цьвярозаму пагляду. Цяпер нібы мая невялікая дапамога ажывіла ў Вас надзеі, надзеі ў гэтай цяжкай і адпаведнай працы... Але гэта ня так; як матка Ваша у першым здарэньні, так можа толькі, і я цяпер, зьявіліся тым пераломным шклом, праз якое Вы выразна ўбачылі тое, што было незаўважана раней...

Абоім хацелася гаварыць доўга, аб усім, адчувалася такая цёпласьць у адносінах і бадзерасьць к далейшай няўпыннай працы.

III.

Ішоў дамоў каля першай гадзіны.

Дзесь-та пракрычалі пеўні, водгаласам аджаўся брэх сабакі і спакойная веліч бяздоннага неба наводзіла чырвонаармейца на думкі і разважаньні. У такія хвіліны яго ахоплівала гордае сьвядомае пачуцьцё моцы сваёй сілы, адчувалася імкненьне к змаганьню, к барацьбе за ўсеагульна-сусьветны дабрабыт працоўных.

Дадавала моц шчыра і шчыра працаваць на ўдзірванелай глебе бацькаўшчыны.

Прыпомніліся словы настаўніцы: „а часамі сумна й нудна жыць, хочацца ў горад, хочацца вучыцца вышэй, больш“...

„Хіба можна дбаючы аб сваіх запросах бегчы адсюль з гушчы людзей, якія патрабуюць нашых сіл, нашай дапамогі“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І новы віхор думак ахапіў чырвонаармейца...

Ён прыбліжаўся к свайму агульнаму памяшканьню-палатцы, дзе раздавалася моцная храпала чырвонаармейцаў.

У пацёмку, абмацаўшы месца, дзе павінен быў спаць, разьдзеўся і ад утомы хутка заснуў, да заўтрашняга дню.

---

Я. Сявец.

*
* *

Загарэлая восень асела смугою,
Шэрань у полі, трава затаптана
Колер іншы у новым зьявіўся настрою
Уборам з якого восень саткана.

Ў пазалоце бярэзьнік на заходзе сонца,
Бабкі злуюцца на пожані ржавай,
І даль распаўзлася ад горкі бяз конца,
Жоўтаю плямай і чэрню каравай.

Мне ня хочацца песьні чуць жоўтых бярозак,
Лепш слухаць рэчкі разьліў ля гаю —
І загэтым скрозь гмахі пустых палосак,
Вясну у восені я адчуваю.



Кляшторны.

# НА СЬМЕРЦЬ ФРУНЗЭ.

Сівая ноч
Халодна—ліпка, жудасна і строга
Глядзіць праз шыбы тоўстыя вакон,
Ў паветры з роспаччу зьмяшалася
трывога,
Ўвесь сьвет трывогай напаўнён.
І ў гэты час на мітынгі і сходы
З адзінай думкаю ідзе працоўных мір,
Ў трывозе жудаснай маўляюць ўсе
народы:
— Скончаўся правадыр
— Памёр фрунзе —
Сталёвым молатам па нэрвам ударае
Апошніх слоў калючы дысананс,
Жалобу страшную глыбока зарывае
Ў душэўнай глыбіні мілённай гушчы
мас.
... Ляжыць баец .. А мільён у мільёна[x]
Імкненьняў ў будучыну справы давяршаць,
І на зруйнованых віхурай войн загона[x]
У касананс станкі загрукацаць...
Мы помнік па байцу ня з мрамару
паставім,
Мы сьвет у сьвіст машыны апранём.
... Завет правадыра мы горда выпаўняем
І шэрагі шчыльней працоўныя змыкаем
І кажам мы:
Дайдзём...

М. Нікановіч.

# Песьні вясны.

Анельцы любай...

* * *

Бунтарыць думкі першамайскае. Залатымі цурочкамі яго песьні льлюцца ў самыя грудзі і кратаюць сэрца...

Пярэсьцяцца вогня-маланкаю сьцягі сярод зеленіва.

Музыка грыміць.

Камяніцы гораду ўхарошыўшыся у адзеньне нова-вянчальнае, вачыма-вокнамі сьмяюцца, захліпаюцца чырваньню прарэзьлівай...

Ї так на твары ў кожнага.

Сонцам сьмяецца, вясной аддае чалавек і думаецца міжвольна:

Жыцьцё, разгарні.. Давай барацьбу!...

* * *

Пралескай першай пасьля зімы, вясноўская раніца з-за полагу ночы вылезла. Ухарошылася сінь-бельлю зарніцы, коскамі сонца ўмылася. К сабе на прыпол пазвала, каб у працы песьціць, засмагла цалаваць...

Ї песьні вясноўскія дробнымі званочкамі рассыпаліся ў паветры..

Гэтай песьні водгукі краталі сэрца, душу...

Яе пела дзяўчына такая ж маладая і прыгожая, як гэта нараджаючаяся вясна.

То ня песьня сумная, горам скалечаная, драбязой жыцьця перасыпаная—у гуках песьні чулася: барацьба з старым, камсамольская бадзёрасьць, бунтарскі вызаў мінуламу...

Ї жадаецца, у той час, рвануцца упярод, моцна крыкнуць, каб далёка-далёка пачулі, ускалыхнуць увесь сьвет сваім клічам пякучым.

Жыць... Жыць хочацца гэтым новым маладым, як гэта вясна жыцьцём!..

Аб гэтым і пяяла дзяўчына.

* * *

Зарніца на ўсходзе гуляла, тух месяц гарбаты на небасхіле і адбіцьцё сваё згубіў у люстэрку-выгарах... Зачыналася жыцьцё дня...

Маладую травіцу з расою, смачна скублі каровы з авечкамі, не адрываючы галавы ад зямлі.

У лапцях раскудлачаных, у сьвітцы шэрай, з салам і хлебам у торбачцы за плячыма хлапчына зьняў дудку... Ї неўзабаве то жалась ліва, то радасна-міла, на усе лады, жалейка грала ў даліне.

Ї здаецца, ня грала яна, а захліпаючыся ад радасьці, ад вялікага шчасьця пяяла голасам хлапчыны:

— Жыць хочацца і усё гэта жыцьцё пяяць!..

Вечарэла.

Гай, шчапіўшыся сваімі рукамі—суччам, паціху шапатаў казку новую, аб новым адменным жыцьці. Аб гэтым голасам кволым птушкі пяялі, сьвісталі...

Сярод дрэў некі пень вялізарны вызначаўся, увесь абросшы мохам, нібы чалавек стаяў, толькі фігура была завяліка...

Нагнуўся на правы бок, рукі назад залажыў, пацягваецца.

А пад ім хлапчына барануе, дзед з поўнай каробкі, бяз шапкі, з сівымі валасамі, бадзёра ідзе босымі нагамі па скібах ральлі і кідае перад сабою залатыя зерня...

Увесь ён, яго праца, гаварылі адно:

Я рад, што я жыву!..

Бо жыцьцё гэта новае ўзыйшло руньню ядранай у сэрцы дзядулі...

* * *

Салодка—п'яная цемень ночы гойдалася паціху.

З-за хмар, з усходу месяц у поўні, паволі-паволі вылазіў і фарбаваў неба колерамі няяснымі...

Дзесь-ці бунтарыў салоўка...

Устуджаная ноч з страхам у чорных вачох глядзела нема проста ў самае нутро...

Дзяцюк малады сьпяшаецца кудысь-ці. Пад разложыстай ліпай пры садзе вішнёвым, што стаіць каля хаты, чакае ён некага...

А потым раптам бразнула клямка сенцаў і выйшла на двор дзяўчына-красуня...

Ідзе шукае дзяцюка...

Абдала пыл-жарам, вуснамі-макамі к вуснам яго прыпала, грудзі хвалююцца...

— Ты мая?.. Скажы любая, дарагая... мая?..

— Твая!

П'яна шэпча дзяўчына.

І жыцьцё ўсьміхаецца над імі руньню ядранай...

— Мы жыць, з табой, будзем іначай...

Выганім бога старага за дзьверы, чырвонаю хусткай вымяцем забабон з хаты... Няхай сьведчыць нам у гэтым першы май...

А май-юнак, як знарок, казку-вольніцу шэпча на вуха моладзі і сам рагоча захліпаецца...

Толькі цябе дарагая любіць, толькі любіць гэта жыцьцё, гэту вясну першамайскую—толькі для гэтага варта жыць...

А у барацьбе-шчасьце...

Шэпча хлапец агнявы на вуха сваёй любай...

—Знойдзем яго...—кажа дзяўчына.

—Я веру мілы, бо кожную вясну нам сілы моцныя дае, каб мы зьмялі ўвесь бруд з сьвету—першамайскае...

І зноў спляліся рукі іх, а вусны шапталі казку жыцьцёвую аб новым, чырвоным лепшым жыцьці новых людзей...

Жыць... Жыць моцна хочацца!..

* * *

Імкнешся к жыцьцю, к шчасьцю, к барацьбе...

Яно ў нашых руках...

Вось і пяю я сягоньня аб гэтым.

М. Ніканові ч.

# ВЯСКОВЫ КАМСАМОЛ.

То ня гром, ня віхура бушуе,
Раскудлачвае косы зарніца —
Гэта моладзь старое руйнуе,
Выгоняе із вёскі начніцу.

То ня град забубнеў, забуяніў,
Павысаджываў шыбы у вокнах. —
Камсамол стары быт разухабіў
Што узрос на дзядоўскіх загонах.

І ня доўга-ж мадзець яму стане,
Бо старое зыходзіць ў магілу.
Жыцьцё новае, яснае ўстане
З гэтых волатаў каменнай сілы.

Захліпнецца у віры жыцьцёвым
Ўсё пайшоўшае прахам учора,
Ноч загіне пад сонцам чырвоным,
Пад праменьнем у золаце з зораў.

Зьменіць вёску-бабульку дзяўчына
Сінявокая з русай касою...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За жыцьцё-ж і за працу, хлапчына,
Каб падужаць нам вёску старую!..

Арывон Куст.

# ГОДЗЕ.

Годзе
слухаць
мне сьвіст касы.
Годзе
нюхаць
мне пот сьпіны.

Сёньня я буду касіць
без расы,
без касься
на зялезнай
машыне.

Прыдушу яе зьверху сабой,
Прымушу запець сірэнай,
і зашпуляю травой,
загачу ўвесь сьвет сенам...

Што хвіліна —
пракос
і даўгі.
Гэта-ж у дзень я зрэжу мора,
а як посьля
злажу ў стагі,
дык зраблю
горад.

Годзе-ж
слухаць мне сьвіст касы.
Годзе
дарэмна моц псаваць.
На машыне
ўпоўдзень
без расы
я буду працаваць.

15 Ліпеня 1925 г.

Арывон Куст.

# РАНІЦАЙ.

З-за лесу сонца яшчэ ня вышла,
а толькі паказала горб чырвоны,
Каб праз паўгадзіны
Ўзабрацца вышай,
Праменьнямі ударыць звоннымі.
Ня дзень яшчэ, а толькі раньня:
Птушыны сьпеў ня дужа распачаўся,
а Арывон ідзе ўжо на сьняданьне;
дагэтуль ён па горла наараўся.

Паласа даўгая,
з канца ў канец на тры вярсты
К таму-ж яшчэ і быдліна худая,
і што ня крок—ірвуцца хамуты.

Цяпер ідзе у двор, каб крыху стравы зьесьці,
Ды быдлаў падкарміць, каб лепей плуг цягнулі
Бадзёры.

А прысесьці,
ды выцягнуцца дзе нібудзь па волі,
каб крыху ногі аддыхнулі—
дык гэтага, амаль ніколі
ня бывае.
Ды ці ў тым бяда?
Ўсё Арывон
трывае,
Ён камсамолец,
І працу любіць больш чым што у сьвеце.
Хай загарыцца дзень
У міліярды сонец!
Ня ляжа ён у цень
на супачынак.
Будучына жыцьцё!
Змаганьне бяз прыпынак!
Вось што у юнака на мэце.

14/VI-25 г.
м. Круглое

Кляшторны.

# БЛЫНДАЕ ВЕЦЕР...

Блындае вецер па вуліцы,
Скача ў пацёмках балет,
П'яным брадзягаю туліцца
К вуснам кабет.

Ночанька цёмная,
Жуда таёмная,
Вуліца сьпіць.

Толькі ў завулку —
Глухім закавулку
Хтось-ці крычыць...

Блукае вецер бяздомнікам,
Ліпкая цемень маўчыць —
Мар'я ў палоні рабоўніка
Ціха крычыць...

Зьвякнула сэрца як молатам..
.. Мар'я спазнала... Іван!...
Ўсю праняло нейкім холадам,
Ў вочах туман...

Моўчкі хвіліны цягучыя
Гінулі ў жудзі-цішы—
Ўскрыліся раны балючыя
Чулай душы..

Вецер на вуліцы з рогатам
Скача шалёны балет,
Прагне хмялеючым волатам
К вуснам кабет...

Думкі як птушкі крылатыя
Блудзяць ў мінуўшчыны днёх
Стукаець сэрца гарматаю,
Смутак ў вачох.

. . . . . . . . . . . . . . .

... Як-та калісь-ці над рэчкаю
Месяц свой твар паласкаў —
Янка на дзёрне пад грэчкаю
Мар'ю абняў.
Беглі часы, чаргаваліся
Цёмныя ночы і дні,
Ў рэчцы як ў люстры купаліся
Зоры-агні.

Хвалі часамі ўзьнімаліся,
Лашчылі ў дне камяні,
З рогатам ў бераг кідаліся
Ў тыя мінулыя дні...

Янка і Мар'я пад грэчкаю,
З працы прышоўшы у змрок—
Помніць каханьне над рэчкаю,
Далі зарок....

Янку чарга падыходзіла
Шэры шынэль апрануць,
Мар'я ў дарогу праводзіла—
Ян, не забудзь!

Капнулі сьлёзы, схаваліся
Ў чорныя хвалі ракі;
Мар'я з раднёй разьвіталася
І у тэй бок кіравалася,
Дзе грукацелі станкі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Блукае вецер на вуліцы...
„Ян, назаўседы даруй,
Я ня была яшчэ блудніцай,
„Блудных цалуй"...

З шляху расьлінасьць ты брудную
Як барацьбіт не зрываў
Й на гэту вуліцу блудную
Ўсё прамяняў...

Начанька цёмная
жудна таёмная,
вуліца сьпіць.

Ўдоўж па завулку,
глухім закавулку,
Мар'я бяжыць...

Ворша
4кастрычнiка
1925 г.

М. Ганчарык.

# З падарожжа па Украіне.

(У прычарнаморскім стэпу)

Гадзін ля 10 раніцы, выяжджаю на конях з станцыі Нова-Аляксееўка*) у Асканію-Нова,**) гэтую зачараваную краіну, аб якой мне прыходзілася шмат чуваць апавяданьняў.

З-за адзіночных будынкаў і дрэў невялічкай стэпной станцыі, выяжджаю на простую пылкую дарогу, абапал якой аблягае магутны шырокі простор чарнаморскага стэпу.

Пажоуклая, шэрая, аднастайная раўніна наўкола цягнулася ля нас, хутка заставіўшы далёка ззаду бялеючыя будынкі і дрэвы. А ўкола, нідзе не супыняючы простор стэпу, бесканечная даль, спаленая сонцам, зліўшаяся з небам там, дзе погляд вока супыняўся, дзе гарачае паветра хвалявалася ад сьпёкі, і толькі на дзесяткі вёрст мясьцінамі, водаль ад дарогі два тры будынкі сярод стэпу з наваленымі буртамі саломы, без адзінага дрэва ля сябе, выглядаючы нібы пасельле селяніна пасьля пажару-тутэйшы хутар. А далей знова й знова абшар роўнага гладкага стэпу, толькі зрэдку збоку, зьліваючыся з сінявой неба і шэраньню простору, ледзьве вызначаюцца белыя будынкі, купалы царквы далёкай вёскі.

Углядаюся наўкола, рупліва шукаючы вокам прыпынку, але аднаціцен, магуцен і супакоен стэп. Напаленая сонцам, дрыжыць, пераліваецца паветра, стамляе няпрывычнае вока, хаця адусюль шугае бесканечнай воляй, просторам, раздольлем.

Мы праяжджаем рэдкую мясьціну цаліннага стэпу Паўднёвай Таўрыкі, якога мала захавалася ў сучаснасьці і які зьяўляецца выразным прадстаўніком Паўднёва-ураджайнай стэпной гаспадаркі. Бязводзьдзе гэтай аграмаднай раўніны, амярцьвляе багацейшую жытніцу нашага Саюзу з яе багатым чарназёмам, дзе ўраджаі ў залежнасьці ад выпадзьдзяў могуць хістацца ад О да 200 пуд. з дзесяціны і робіць гэтыя абшары ў поўным сэнсе бязьлеснымі. Ні дзерава, ні кусьціка вы ня сустрэнеце, тут цэлымі дзесяткамі верст-хіба толькі адзіночны селянін-хутаранін пасадзіць ля свае хаты адно -два дрэвы белае акацыі, паліваючы выгадуе іх, каб у летнюю сьпёку знайсьці сабе асалоду цені ад густой шапкі лісьця.

І вока беларуса, якое прывыкла к лясістым гмахам, узгоркам з пералескамі, сялянскімі сялібамі ў зелені прысад і садоў, не здавальняецца гэтым роўным бесканечным просторам, кругагляд якога адчыняючыся дзесяткамі вёрст не абложан лясістым колам, а роўнай сьцяной гладзі прырастае к небу.

---

*) Ст. Нова-Аляксеяўка паўднёвых зял. дор. недалёка ад за „Сіваш“ Перакопа.

**) Асканія Нова, гэта Дзяржаўны стэпны сахраньнік у імя т. Ракоўскага з значным абшарам цаліннага стэпу і надзвычайна багатым батанічнымі, асабліва зоапаркам, дзе собрапа многа розных дзікіх зьвяроу і птах і вядецца праца над іх акліматызацыя.

Надзвычайную прыгожасьць выяўляе гэты стэп вясною,, калі ўвесь абшар сучаснай жоўтай, радзянай травы абкрываецца дываном прыгожай стэпной зелені, калі стэп зацьвітае, абкрываючыся разнаколерным¡ чырвонымі макамі,валяр'янкамі тульпанамі і інш. Уся паветра дрыжыць ад разыходзячага паху, грудзі нявольна ўдыхаюць сьвежасьць павабнай паветры і прыемна лашчыцца вока наўкола.

У чэрвені стэп зарастае кавылём, які сваімі высокімі мятліцамі закрывае ўсё. Дыхне ветрык і безбярэжнае мора закалышацца, захвалюецца, нібы прастор марской гладзі.

Цяцер-жа стэп была распрыгожана. Сонечная сьпёка адабрала у яе ўбраньне. Хваціць ветрык, уздымецца натоўп пылу па дарозе, зашамацяць наўкола, куляючыся бяз меры і канца клубкі „Перакаці Поля".

Прытаміўся погляд ад празрыстасьці сьвету і ад аднастайнасьці малюнку, каб адпачыць, утарапляю вочы ў ногі свайму суседу, але, ненарокам ускінуўшы погляд на бок, застыў ад зьдзіўленьня.У некалькіх вёрстах збоку, там дзе некалькі хвілін таму назад я бачыў адны панурыя бурты сена, цяпер шырокім разьлівам, ахапіўшы значны абшар стэпу, стаяла вада і самыя бурты напалову затопленыя, доўгімі разьбегаючымі ценямі разыходзіліся па вадзе.

— Што гэта,-рака, затока мора, возера? пытаў я сам сябе. Як гэта я раней ня бачыў. Але на раку гэта ня было пахожа: вада ня мела роўных абрысаў берагоў, а мястамі зьлівалася з небасхілам, мястамі рабіла адходы ад яго і доўгімі касамі заходзіла на стэп, нібы вяснавы разьліў распоўзшыся па абшары.

Мой сусед, харкаўскі доктар, гэтак -жа ў пяршыню праяжджаў праз гэты стэп і цяпер таксама здзіўлёна глядзеў на новае зьявішча неспадзяваная тут.

— Што гэта, возера, рака, а мо' затока мора падыходзіць сюды? запыталі мы ўрэшце свайго хурмана-немца,палоніка вайны 1914 года, працуючага у Асканія Нова.

— Ды не, там ніякай вады няма, гэта так, ад паветры здаецца што вада, адказаў ён нам на даволі чыстай украінскай мове, з некаторым нямецкім акцэнтам.

— Да вунь глядзеце, і ў новым месцы тое самае....

Мы ўскінулі свой погляд за рукой хурмана і там, дзе так нядаўна зьбягаў у даль бязупынны стэп, шырокім абшарам стаяла вада, зьліваючыся з небесхілам.

Міраж.... Тут тэлькі я прыпомніў пра міражы пустынь і марей, як у чыстым напаленым паветры зьяўляюцца адабражэньні находзячыхся за дзесяткі, соткі вёрст дрэў, азёр. будынкаў і інш.

Праўда, пра міражы нашага паўднёвага стэпу я не сустракаў вестак, але нявер'я быць не магло-гэта быў міраж.

Праз нейкі час, калі мы праехалі значны кавалак, перад намі зноў вырасьлі ранейшыя бурты сена і сухая пажоўклая стэп, вады ўжо ня было, затое то там, то сям можна было зноў бачыць празрыстае

шкло вадзіцы, заліўшай абшары стэпу, прападаючай нейдзе за небасхілам.

І ня толькі ў гэты дзень, а за ўвесь час (тыдзень) майго гасьцяваньня ў гэтай краіне, я кожны дзень любаваўся міражамі, якія з часу пачатку сьпёкі 10-11 гадзін раніцы, зьяўляліся на абшары стэпу, зьнікалі, зьяўляліся новыя. Шмат раней яшчэ, наперадзе, я заўважыў зьлітыя з агульным фонам неба белыя вышкі далёкай царквы. Цяпер-жа перад намі выплыла аграмадная стэпная вёска стройнымі шэрагамі белых мазанак і высокіх саломяных буртоў.

Гэта сяло-Нова-Троіцкая. Доўга яшчэ яна снавалася перад нашымі вачыма к якой здавалася "як рукой падаць" пакуль зрабіўшы крутую паваротку, мы не апынуліся сярод вуліцы вёскі.

Вялізная, у некалькі сот хат, яна цэлымі шэрагамі вуліц была раскінута сярод голага стэпу, разыходзячыміся прамакутнікамі, роўнымі, як шнур і шырокімі, як поле.

Кожнай з гэтых вуліц мог бы пазайдросьціць наш Менск, найшырэйшая вуліца якога, магла двойчы зьмясьціцца тут на кожнай з вуліц а прыгожа беленькія, крытыя ўсе, як адзін чарапіцай домікі маглі-б аздобіць далёка не акраіны нашай сталіцы.

Але, разам з агульнай разьмяркованай прыгожасьцю, адчувалася нейкая пустка, бязьлюдзьдзе, а разам з тым, адарванасьць ад культурнага сьвету. І ні воднага дрэва, ні воднага кусьціка, зрэдка адна-дзьве белыя акацыі - і толькі. Усюды і ва ўсім дапамагае глеба. Даволі тлусты чарназём ды, лежачая ніжэй матчына парода, жаўтазём у пэўным сэнсе заменяюць тут дрэвы.

Тут мне прышлося пабачыць, як з гэтай самай зямлі тутэйшыя жыхары строяць свае будынкі. Верхнія пласты чарназёму, абліваючы вадой замешываюць разам з умецьцем, альбо саломай, нагамі, а часамі й коньмі і тады з гэтай ліпкай гразі уформ ах на манер цагляных робяць цагліны, так званы "саман", велічынёю большыя чым звычайная цэгла, у 3 дэцымэтры даўжыні, адзін дэцымэтр таўшчыні і ля паўтара дэцымэтра ўшыркі. Зроблены гэтакім чынам "саман" раскладаюць у копы сушыць на дварэ, што можна было бачыць амаль што ў кожнага гаспадара, і калі ён высыхаў, матар"ял лічыўся гатовым.

З яго, у паўтары цагліны дзеля надворных будынкаў, і 2 цагліны для жылых, і пабудаваны ўсе будынкі, як гэтай вёскі, так і ўсяго бязлеснага поўдню. Як з надворку, гэтак з сярэдзіны, сьцены будыніны (ў жылых) абмазываюцца жаўтазёмам і як прысохне абмазка, беляцца. Дзеля пакрыцьця, саломы амаль што ня ўжываюць, а большасьць будынкаў крыта чарапіцай з жаўтазёму, якую гэтак-жа робіць сабе кожны гаспадар.

І толькі невялікія хляўчукі абкрываюцца тонкім пластам саломы паверх якой насыпаецца ценькі пласт зямлі, а зьверху абмазваюць глінай. Такая абмазка глінай як на крышах так і на сьценах не даўгавечна, дзякуючы дрэннасьці тутэйшай гліны і штогодна патрабуе рамонту ці нават новай абмазкі. Але тутэшйыя жыхары настолькі пры-

выклі к чыстаце і акуратнасьці сваіх будынкаў, што вы нідзе не заўважыце абадранай, ня толькі ў сярэдзіне хаты, але й знадворку.

Замест нашых плятнёў і парканаў, нязвысокія сьцены з „саману“, абмазаныя глінай, альбо і так-зрэдка дзе пабялёныя. Толькі на бальки кроквы, латы, столь, вокны, дзьверы, і інш. абсталяваньне хаты прыходзіцца купляць дрэва на прыстанях па Дняпру, альбо на з. д. станцыях. Падлог-жа ў хатах звычайна ня робяць, а гладка, роўненька выбіваюць чарназём, затым ўлетку знаходзіш у такой хаце прыемную прахладзь.

З Нова-Троіцка, крыху адпачыўшы, едзем далей. Тыя-ж малюнкі што й раней, такі-ж роўны супакойны стэп. Амаль што на 15 кілёмэтраў за Нова-Троіцк цягнуцца „нівы“ гэтай вёскі, а далей праходзіць шырокая мяжа з слупамі уладаньняу Аскані-Нова і яшчэ кілёмэтраў 10 мы апынуліся у адной з Асканійскіх гаспадарак „Доранбург“.

У Доранбурзе прышлося застанавіцца да самага вечару і калі мы выяжджалі на Асканію, дык ужо залацісты захад значна стух, паліліся у небе зоркі і, ў застаўшымся ззаду Доранбургу, на высокай вадацяжарнай вышцы гарэла моцная электрычная лямпачка. Да Асканіі заставалася 22 кіл. па прамой дарозе. Хутка ўсё неба ўсыпалася бліскучымі зоркамі, прыросшымі наўкола к небу, ды месяц нявольна спускаўся к небасхілу. А ўвесь час ззаду сьвяціла, да самай Асканіі, электрычная лямпачка на Доранбурскай вадацяжарнай вышцы.

Стэп маўчаў нібы застыўшы асілак; здавалася што прыслухаўшыся пачуеш, як уздымаюцца й апускаюцца павольна яго грудзі, а прыглядзеўшыся, пабачыш іх роуныя ўздымы.

2 гадзіны язды і перад намі раптоўна выплыў Асканійскі парк: зьвярнулі і нездалёка цэлы шэраг аздобных беленькіх домікаў выглянулі ў сьвеце электрычных фанароу вуліцы. Яшчэ некалькі хвілін і мы ўзехалі на шырокую прасторную вуліцу гаспадаркі, утопленую ў зелень па якой вандарвала даволі многа людзей.

Застанавіліся коні, мы прыехалі.

Д. Васілеўскі.

# Паэта Ян Баршчэускі аб Беларусі.

**(З уласных лістоу яго да пані Карсак)**

Паўночная Беларусь у першую палову 19 сталецьця мела цікавы выгляд. Жыхарства распадалася на дзьве сацыяльныя часткі: вольныя паны і падданыя, прыгонныя хлопы-сяляне. Сярод вольнага шляхецтва паўночнай Беларусі быў досыць ёмкі слой, які па сваім звычаям мала чым адрозьніваўся ад прыгоннага беларуса. Адна вольнасьць цы належнасць да клясы шляхты адрозьнівала такога пана ад хлопа.

Пануючая тады на Беларусі польская школа давала дробнай шляхце мажлівасць даць належную адукацыю сваім дзецям, але школа калечыла іх беларускую істоту, раздвайвала іх душу ў пачуцьцях між

Беларусьсю і Польшчай. Яны лічыліся палякамі з беларусоў; шмат прыражэнцаў Беларусі працавалі над яе вывучэньнем

Найбольш сумленным з такіх прадстаўнікоў адукаванай беларускай шляхты быў паэта Ян Баршчэўскі. З агульных курсаў беларускай літаратуры мы ведаем, што Баршчэўскі першы пачаў пісаць беларускія вершы, а летам вандраваў з кіям у руцэ па Віцебскай Беларусі і зьбіраў песьні народа, яго паданьні, прыказкі забабоны.

У Віцебскім музэю захавалася 39 лістоў Яна Баршчэўскага ад 1837 па 1845 год з Пецярбурга на Беларусь, у маентак Рудню, Невельскага павету, да пані Юльяны Шэпелевіч з Корсакаў, сваей „Шаноўнай сестры". Рудня належала ў тыя часы паном Шэпелевічам. Ад Неўля яна ляжыць у 20 вярстах, на рэчцы Ізоча, сярод вельмі прыгожай прыроды.

Кожнае лета наяжджаў сюды гасьціць Баршчэўскі і ўсе лісты яго поўны ўспамінамі аб харастве Беларусі. У Пецярбурзе Баршчэўскі адчувае сябе надта маркотна без беларускіх палёў, лясоў. У яго лістах пісаных па польску, няма Польшчы, а цэльнае замілаваньне беларусам і Беларусьсю. У сваім „Шляхцічы Завальні" Баршэўскі так малюе прыроду Беларусі

Радная зямля! Твае горы ўзьнеслы,
Сенажаці і воды ўкруг трысьцём абраслі,
І лясы, куды блеск не пранікаў сонца,
Заўседы малююцца ў маіх успамінах.
У зялёнай барве, у вясеньнім прамені,
Як бы абраз які чаруючы,
Грыміць у маей памяці тасклівы сьпеў хлебароба,
І няўчонага пастуха мужыка,
Калі ў разьлеглых барох над возерам
Рэха павялічае енк кобзы вечарам.
Люба, калі прахлаждаецца вёска вячэрным ценем
Па дзянных працах, пад нябес скляпеньнем,
Прад хатай, гуртком сабраўшыся, пасядуць
І слухаюць, як старац апавядае
Калісь ад прэдкаў слышанае здарэньне,
З пакаленьня ў пакаленьне перадавая
Успаміны аб даўных людзях
Аб багатырах, войнах і чудах.

На ганках плаваў Баршчэўскі з сялянамі па рэках Беларусі, любіў езьдзіць па шляхох Віцебшчыны. Лісты Баршчэўскага да пані Шэпелевіч перасыпаны вершамі аб Беларусі і яе дарогах. У лісьце ад 18 траўня 1839 года есьць такі верш аб падарожжы:

Есьць у падарожжы час вяселы
Калі вольна трымае лейцы ў далонях
Фурман, званок звоніць,
Коні ляцяць як сакалы.
Ледзьве хватаю версты вокам:
Нікнуць полі, нікнуць сёлы

Іскры спад капыт, спад кола,
за мной ляціць пыль облакам.
Сонца зашло, сьвецюць звёзды,
Знаць ня хачу жар дзёны.
Верст са дзьвесці праляцелі
У ночы летняй лепшы язда:
Ужо змрок скрывае долы, горы,
Неба блізка, відаць хмары.
Праз лес глухі, пануры
Ляцяць коні, як саколы,
Птах ня квеле, ў начной глушы
Зьвер спачывае, і на дубе дремлюць
Крукі і ястрабы.
Я блукаю ў мысьлях душы:
Вясна іх роіць цэла мора,
Ужо ня раз шчасьця прамень
Зьнік і здрадзіў мае жаданьні.
Наглы гром паразіў вушы,
Віджу неба захмурана,
Шумяць лясы, раптам-бура
І пад небам і ў маей душы.
Яшчэ дарога мне далёка,
Ляцяць коні, як саколы,
І праз горы і праз долы:
Там чакае мяне час прыемны.

Лісты Баршчэўскага мараць гэтымі прыемнымі часінамі на Беларусі, аж цэлую зіму ў Петярбурзе. Усе там давіць яго: і прырода і сьцены і людзі. У вадным лісьце ён прызнаецца: „З нецярпеньнем чакаю часу, калі хоць на адзін месяц выеду на Беларусь“ (ліст ад 24 красавіка 1838 г.). Беларускае карэньне цягнула Баршчэўскага да роднай зямлі і культуры, а чужая школа, выхаваньне ставіла яму перашкоды да вольнага самапачуцьця і нацыянальнага самавызначэньня. Ад гэтага яго вершы ў лістох маюць, жудасны тужлівы настрой. Цярпець-такое мае прызначэньне!

Йдзе шукаць аблягчэньня ў жудаснай каляі жыцьця?. Чужая культура, чужая мова валачыла за сабой Я. Баршчэўскага. Нада ўзьбіцца на родную культуру, упіцца роднай мовай, адсюль зразумела яго імкненьне да усяго роднаго, беларускага. Мова лістоў Баршчэўскага мешаная беларуска-польская і большы беларуская, чым польская.

Але ўжо такі гаротны лёс беларуса, што яму трэба шукаць было кавалак хлеба за межамі Беларусі. Пасьля Пецярбурга Баршчэўскі пераехаў на Валынь, у маентк Чудноў, графіні Ржевускай, дзе й памер у 1851 г.

Вольны Беларускі народ, вольная Беларусь, аб якой успамінаў Баршчэўскі, добрым словам памянець першага свайго паэту.

Мікола К.

# Социяльныя матывы ў беларускіх казках.

Кожнаму з нас вядома, што ў шчасьлівую залатую пару дзяцінства казкі рабілі на нас неадхільны уплыў: яны будавалі ў нашай душы які то зачараваны сьвет, поўны яскравых малюнкаў; мы радаваліся радасьцям казачных герояў, іх посьпехам і, здавалася, самі перажывалі іх удачы й няўдачы. Але мінуў гэты незваротны час, мы бліжэй падышлі да жыцьця, убачылі яе цяжарныя зьявы; тады мы ставілі сабе пытаньне: чаму жыцьцё ня казка? А каток нашага жыцьця ня мог зрабіць прыпынку, і ў нас зьявілася жаданьне вывучыць гэтыя зьявы і само жыцьцё паставіла зноў пытаньне: што кажа казка а самым жыцьці? І мы ўбачылі іншае, мы убачылі, што:

Казкі кожнага народу высьвятляюць яго жыцьцёвыя думкі і яго погляд на самае жыцьцё. Калі лірычная песьня есьць водгук душы ў яе сумнасьці або радасьці, то ў гэтым сэнсу казка ня ведаець такіх ухілаў: яна складаецца ў хвіліну спакойнага перажываньня, у хвіліну падкрэсьліваньня ўсіх жыцьцёвых умоў, схапляе ўсе мінулыя жыцьцёвыя зьявы, зьвяртае увагу на сучаснае жыцьцё і робіць у яскравых малюнках азначаны жыцьцёвы вывад. Казка—гэта філёзофія народу, у якой асяродзіліся, згушчыліся найлепшыя яго жыцьцёвыя вынікі.

Наш беларускі народ, у сілу гістарычных прычын, быў пазбыт магчымасьці мець адукацыю, знаеміцца з творамі вялікіх пісьменьнікаў і філёзофаў; у кожным кроку свайго жыцьця ён быў адзін, без дапамогі з боку людзей асьветных і навуковых; але ўсе-ж духоўна ён не памер, душа жывілася ўсім тым, што навокал яго дзеялася, і крок за крокам ён зьбірае гэты жыцьцёвы матар'ял, ашчаднуець яго, а потым складзе ўсё гэта ў дзіўную казку. Ня дарма ак. Карскі сьведчыць, што „казкі займаюць адно з віднейшых месц сярод твораў усіх галін рускага народу, але асабліва багаты імі беларусы."

Калі мы зробім беглы абгляд беларускіх казак, дык мы ўбачым, што яны па свайму зьместу рэзка адзначны ад казак іншых народаў: у іх няма залатых і крышталёвых палацаў, ні тых зачараваных месц, дзе жывуць каралі ды прынцэсы. І клімат, і глеба, і гістарычныя варункі не змаглі дапамагаць утварэньню гэтакіх прыгожых па тэме, і па зьмэсту далёкіх ад жыцьця казак; паказаныя варункі не давалі магчымасьці фантазіі ўзьлятаць высока і выракацца цяжарнай і горкай сапраўднасьці. Сярод казак беларускага народу можна ўгледзіць шмат такіх казак, у якіх выказваецца яго социяльны сьветапогляд, яго парываньне ўдумацца ў цэлы шэраг складаных і запутаных грамадзянскіх узаемаадносін і знайсьці сабе сапраўднае месца на жыцьцёвым шляху.

А ў мінулым жіцьці беларуса можна угледзіць толькі адну вялікую Галгофу. Прыгонны ўціск на Беларусі праявіўся больш, чым у

іншых месцах. „Першая палова XVI ст. зьяўляецца часам паступовага закрэпашчэньня сялянства і разьвіцьця прыгоннага землеўладаньня ў сувязі з разьвіцьцём шляхецкіх вольнасьцяў“ (Доўнар-Запольскі зак. Руск. сельск. абшчына). Значыцца, з аднаго боку расьце вольная шляхта, у якой маецца зямля й цэлы шэраг вольнасьцяў, а з другога боку зьяўляецца сялянская грамада без зямлі, бяз усякіх праў, нават і без даверыя: „А халопу і робе веры не няці“ (Земскі прывелей 1393 г., даны Віцебску Вітаўтом).

Так кажа гісторыя, так кажа ў вобразнай форме і казка беларуса.

Паміж гэтымі двума соцыяльнымі клясамі адразу ўстановілася якоясь-то бяздоньне. Паны сталі глядзець на беспраўнага мужыка, як на скаціну, якая бяз пана ня будзе існаваць. Народная казка зазначае гэты панскі погляд вось як: „мужык бяз пана абайціся ня можа: б‘ецца, дзярэцца—сьцеражы ты, божа!“; альбо: „у мужыка такая натура, што без бізуна сьвярбіць шкура“. Гэты бізун праходзіць праз усе казкі беларуса з соцыяльнымі матывамі. І ня дарма кожная казка на тэму а пане пачынаецца з такіх слоў: „Быў адзін ліхі пан. Цяжка пад ім жылося людзям“, альбо: „Быў сабе адзін пан, ды такі паганы, злосны, што проста бяда, ніхто ня мог яму ўгадзіць, усе яго баяліся, бы чорта.“ І панская рука моцна захапіла пад сваю ўладу гаротніка беларуса.

Паміж панам і селянінам быў глыбокі соцыяльны падзел, утварылася глыбокае бяздоньне. Чалавек адыйшоў ад чалавека, адзін перастаў бачыць у другім свайго-ж брата, пачаў адзін уціскать другогога. А беларус з роду ў род, у сваіх казках успамінае аб тым залатым часе, калі ўсе былі роўны, калі ня было а ніякага надзелу паміж людзьмі. Вось як аб гэтым зазначае казка („з чаго ліха на сьвеце“) „Даўным-даўно, спрадвеку, жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха ня зналі. Сьвет вялікі, усюды вольна, як патрудзіўся, так і пажывіўся. Ня было тады ні паноў, ні мужыкоў, а так сабе людзі жылі, людзі бы кветкі цьвілі; жылі, бы птушкі ў небе, ці рыба ў вадзе. І пазналі людзі, што ў каго ёсьць розум, той можа рабіць, што хоча Розум пакажа людзям дарогу, як ліха адалець і як так жыць, каб усім было добра і каб ня было ліха. Але шатан ня спаў. Давай гэта падбіваць дужэйшых, каб яны бралі ўладу над слабейшымі. Давай гэта дужэйшыя адбіраць ад слабейшых, што тыя ня зробяць; давай імі ўладаць, бы сваім дабром. От гэты шатан дужэйшых ды хітрэйшых зрабіў панамі і аддаў ім у рукі ўсіх слабейшых людзей. І пайшло з тае пары ліха на зямлі, пайшло такое ліха, што й сказаць ня можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы звер‘ё; пачалі іх мэнчыць ды зьдзеквацца, быццам гэта й ня людзі, а гавяда. І паны ўзялі ўладу на зямлю, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць ды забіваць, да адзін на другога пасылаць“: Так проста й вобразна перадае беларус у сваей казцы аб адбыўшейся зьяве соцыяльнага падзелу. Гэтая соцыяльная розьніца чым далей тым больш разьвівалася, усё болей і болей гэтыя два соцыяльныя клясы разыходзіліся адзін ад другога. Пачынаецца разьвівацца сярод паноў тып самадура, які знаходзіць сабе вялікую ўцеху пры поглядзе на па-

куты бяздольнага клясу мужыкоў, нясучых на сваіх плячох непасільную працу.

„Хіба-то сьвет, што дзясятак або другі паноў ды багатых людзей панавала, а наш брат гарапашнік так мучыўся, што ня рад быў і жыцьцю. „І на што толькі бог так даў на сьвеце, што той, хто жыве праўдаю, ды гаруе-мучыцца, а хто ліхам ды круцельствам—пануе“ вырываецца з змучанай грудзі мужыка („Жаласьлівая пані“) А гора было вельмі цяжкае. „От, у вадным дворы быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вычвараў! Як толькі ён ня зьдзекваўся над людзьмі. Сек ён мужыкоў і баб, старых і малых. Не аднага ён засек на сьмерць і нікого не баяўся. А людзей ён лічыу гарэй сабак. Што ён вычвараў над маладзіцамі ды дзеўкамі, дык сорам і казаць, „гаворыцца ў казцы (пану навука) „І больш былі не паны, а звяр‘ё паганае. Ось як трапіцца такі паганы пан, то хоць лажыся ды й памірай—нічым яму ты ня ўгодзіш. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць: „ня так, шэльма, ня ак, галган, ня так, пся крэў,—й есьць цябе поедам, есьць, зьневажае, зьдзекуецца. А чуць што—жыўцом шкуры злупіць. Ой, цяжка, вельмі цяжка было з ліхім панам“ А вось другі малюнак пана, які дашоў у сваём глуме над людзьмі да дасканальнасьці: „Быў сабе адзін пан да такі паганы, злосны што бяда. Ніхто ня мог яму ўгадзіць. Усе яго баяліся, бы чорта. Бывала як прыдзе к яму хто чаго кольвек прасіць, а ён раптоўне й крыкне: „што скажаш“?—а той кажа“: ўсё добрае паночку“, а сам дрыжыць, бы асіна. „А па добрым што?“ закрычыць пан „на канюшню яго, галгана.“— От пан ня дасьць і слова прамовіць. Іначай ён і ня ўмеў з людзьмі гаварыць. І баяліся-ж людзі гаварыць таму пану што небудзь кепскае, не пад гумар, засячэ, усю шкуру зьніме, калі хто не патрапіць сказаць яму так, як ён хоча, а скажа не па шэрсьці („мужык і пан“) Відаць што становішча матар‘яльнае нашага продка было вельмі кепскае, што адно толькі гора застаўляла яго ісьці к гэтаму зьверу-пану ў надзеі, што можа пан зьлітцецца і дасьць тое, што ён папросіць.

Гэтакімі цёмнымі фарбамі рысуецца пан у беларускіх казках: ніводнага чалавечнага пачуцьця пан ня ведае: ён абрысован у казках якім-то упыром, які надта любіць піць чалавеччую кроў. Гэтыя паны, па народнаму погляду, наогул страцілі свае лепшыя пачуваньне людзкія, і ўзрасьцілі ў сабе парываньне рабіць гаротніку-мужыку як можна больш пакуты, пацешаючыся гэтым. Але-ж і ў панскіх грудзёх б‘ецца чалавечча сэрца, не заўседы-ж яму мардаваць: праяўляе і ён нацяг к жаласьці й любасьці, але ў якой-жа дзікай форме праяўляецца гэтая жаласьць, люты зьвер ня смог бы выявіць гэтакую акрутнасьць якая уласьціва была паном. Вось як кажа казка аб гэтым. „Мужыкі абяднелі, пухнуць ад голаду, бо некалі хлеба зрабіць, пані зганяе пашто дзень у двор. Тут яна прымушала будаваць харомы й даглядаць сабак, катоў. Яна бачыце вельмі жаласьлівая над чэснымі жывёламі. Яна адусюль пазьбірала коп пяць сабак ды катоў, корміць іх, мые, чэша ды абмывае, цалюсенькія дні даглядае гэтую погань сама і трымае на тым дзе-

ле ўсіх баб. Уся дворня ды ўсё сяло толькі й рабіла на гэтую поскудзь. А пані была такая жаласьлівая, такая жаласьлівая над катамі ды сабакамі, што часам з маладых хлопцаў ды дзевак па некалькі шкур зьдзірала, калі яны нядобра даглядалі тую жывёлу. Вельмі яна карала тых маладзіц, што шкадавалі сваіх дзяцей ды сьцішка карміл іх сваёю грудзьдзю, а не катоў і сабак, як вялела пані. (Жаласьлівая пані). Зьмест гэтай казкі бяз усякага тлумачэньня моцна падкрэсьлівае тое соцыяльнае становішча, у якім апынуўся беларус. Далей ужо ў глуме ісьці было некуды, гэта зьяўляецца самай канцовай граніцай, якая паказвае ўвесь цяжар крапасьніцтва. У гэтай казцы народ на ўвесь час запісаў у гісторыю аб лютасьці паноў, аб іх адносінах да працоўнага люду, да гаротніка-мужыка.

У казцы „Пісар“ апавядаецца тая цемра, у якой знаходзіўся пакутнік-народ. „Раз доўга пана ня было ў двары, і пашла чутка, што пан ня вернецца, што ён прадаў маёнтак якомусь другому пану. Хто іх там ведае, мо й праўду кажуць, быццам той пан за пару заграмічных коняй і пяток сабак аддаў увесь маёнтак з людзьмі. Але вось па нямалым часе прыехаў новы пан. Сабралася грамада й давай радзіцца, як тут далей жыць. Вельмі-ж цяжка было жыць пад тым панам, ці ня можна ўпрасіць новага пана, каб ён трохі збавіў паншчыну й падаткі. Радзілася, радзілася грамада ды прыгаварыла прасіць новага пана, а каб усё добра сказаць, (вядома, мужык цёмны ня скажа, як трэба) прыгаварылі напісаць пану ўсё на паперы. Але як-жа тут напісаць, калі ніхто ня ўмее. Карбаваць яны яшчэ добра ўмеюць. Але пісаць, ані ў зуб. Прачулі яны, што ў мястэчку ёсьць якісь п'янчужка пісар і што ён умее вельмі добра пісаць. Вось гэты пісар цэлы тыдзень піў гарэлку ды еў яешню. А калі прыступіў ён пісаць, то паліліся ня просьбы, а народнае стагнаньне. „Напішы. каб пан даў на дым па пяці коп жэрдзя на плот“ і г. д.; напісаў пісар. Мужыкі паставілі крыжы й дзякуюць пісару. Сабралі яму з сяла курэй, яек, арэхаў, мёду, сала—хто меў. Вось мужыкі гуртом пашлі да пана й падаюць яму паперу. А пан і кажа: „дзякуй вам, што вы мне даеце з дыму па валу, па капе яец і па асьміне аўса“.

Гэтая казка яскрава нам паказвае ўвесь цяжар крапасьніцтва. Мужыку прыходзілася аддаваць пану ўсе тое, што ён зрабіў за тыдзень. Сам пан хістаўся дзе-та заграніцай, яму мала было спраў да мужыка-з гэтакім жа няважкім сэрцам ён абменьвае весь маёнтак з людзьмі на сабак. А цемра гаротніка селяніна давала магчымасьць кожнаму прайдзісьвету яго ашукваць, часам увадзіць у яшчэ горшае становішча. Але гэтыя малюнкі носяць надта нудны характар. Зьмест гэтых казак паказвае, што няма лепшага шляху к лепшай долі й што нельгя спадзявацца на што-небудзь добрае. Здаецца, што ні адзін ясны прамень не асьветліць гэтае цёмнае жыцьцё, ні адна лепшая думка не захопіць гэтых гаротнкіаў. І калі толькі трапіцца што-небудзь лепшае, народ-пакутнік ужо баіцца гэтага лепшага, каб за лепшым ня прышло горшае. Усе гэтыя соцыяльныя ўмовы вытравілі ў селяніна імкненьне

да лепшага, выпрацавалі страхату да лепшага. Нядарма ў казцы й выказваецца гэты настрой: „Але, ведама, тутачкі у гэтым пекле людзі так прывыклі гараваць і заўжды жыць у бядзе, што харошы ўраджай ня радуе, бо ўсе думаюць, што гэта не на дабро, і пашла прачутка, што вялікі ўраджай, але ня будзе каму есьці, ня будзе каму спажываці". (поп і пустэльнік). Альбо ў другой казцы (Іванка прастачок): „От служаць людзі паном, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя, халодныя ды за працаю сьветлага сонейка ня бачаць. І людзям здаецца што лепшага жыцьця й ня трэба, бо так жылі і дзяды і прадзеды"..
І няма ратунку ад такого жыцьця, бо яно ўсё, бы каменьняў куча, зьверху-ж лег адзін вялікі камень. От спрадвеку й да тых часоў ліха людзей давіць, бы ў кучы той каменьне; трашчыць куча, трэ каменьне, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутка асядае, асядае ніжэй-ніжэй ды ўсё ніжыцца да долу... Так і ў жыцьці: ўсе гарэй-гарэй бедным людзям, бо народ множыцца, а сьвет адзін. І так цесна людзям на зямлі, а тут і тое, што есьць сьлімазарнае, дужэйшыя людзі захвацілі ды ўсё трымаюць, бы воўк зубамі. Забіваюць, паядаюць людзі адзін другога гарэй, як зьвер зьвера. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча" (з чаго ліха на сьвеце). Апошні зьмест казкі, у надта вобразнай і жвавай форме перадае нам погляд народа на ўтварыўшыйся соцыяльны парадак; у гэтым ладзе народ займае аснову, якую пераціраюць на жарству большыя і вялікія каменьні. Магчыма пры гэткім шпэтным палажэньні пагадаць а разьвіцьці свайго духу, пры такіх кепскіх варунках зьберагчы дух жывы? І ўсе-ж, ня гледзячы на гэтыя надта цяжкія акалічнасьці, народ, па славам Бядулі, „толькі часам падымаў паўстаньні, забіваў свайго пана, мсьціў, як мага, але ў большасьці цешыў сябе толькі ў казках-байках, дзе выказваў спадзяваньне аб тым, што надыйдзе час, і ён, ратай, стане вольным чалавекам, роўным з усімі на зямлі. Сялянскіх гэрояў-рэвалюцыянэраў за час паншчыны было шмат" („Вера, паншчына і воля"). У казцы „Іванка прастачок" відаць, што зьяўляюцца сярод сялянства такія людзі, якія паказваюць грамадзянству на тое, „што вялікая крыўда на сьвеце, што адны пануюць, другія гаруюць, адны багацьцю лічбы ня маюць, другія з голаду падыхаюць", А ў другой казцы ня толькі выяўляецца гэтая соцыяльная няроўнасьць, але адзначаецца й той сродак, цры дапамозе якога магчыма зьнішчыць яе: „толькі тады (гаворыцца у казцы „з чаго ліха на сьвеце"),—чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе, ды ў ладзе. Яны ня знаюць таго, што адзін чалавек ня мае моцы, бы чарвяк, бы тая былінка ў полі; і наляціць вецер, закруціць хвіля ды й сатрэ, зруўнуе з зямлёю. І чаго толькі ня зробяць людзі, калі возьмуцца за дзела грамадою, бы адзін чалавек... Але от гэтага й ня зналі людзі, як жыць на сьвеце, каб усім было добра. Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. От, ад чаго ліха на сьвеце... Але радзіўся на сьвеце ясны розум і пачаў расьці; толькі расьце ён так ціха, так памаленечку, што чала-

век век пражыве, а розуму чуць на крыху прыбудзе. От, як вырасьце той ясны, бы сонейка, розум, ды пачне сьвяціць людзям у вочы, дык тады ўсе пазнаюць з чаго ліха на сьвеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысьць (паноў) і зажывуць на зямлі, бы ў раі. І будзе людзям добра жыць на сьвеце, калі яны не захочуць мець уладу адзін над другім, а калі ўздумаюць над людзьмі панаваць, то пазнаюць і дабро, і зло, і датуль будзе ліха, пакуль людзі будуць мець уладу над людзьмі".

З гэтага відно, што надзея на лепшую долю ўсё-ж у народзе ня гасьне. Ён чакае цуда, ён спадзяецца, што вось народзіцца багатыр, які будзе ўладаць вялікім разумам, вакол яго зьбяруцца людзі, і ён ім скажа аб вялікай крыўдзе на сьвеце; народ верыць, што гэты багатырь усіх параўняе, што ён утворыць царства, у якім „усе людзі роўна працуюць, з працы жывуць, адзін другому дапамагаюць.

У казцы „Асілак" народ відавочна выказвае свае думкі аб утварэньні на зямлі гэтага шчасьлівага царства. Гэты багатыр пераходзіцьужок дзеяньню „Няма чаго мне тут з вамі сядзець ды курэй заганяць. Я пайду шукаць ворагаў і ці сам загіну, ці ворагаў загублю." У народзе зьяўляецца іншая думка, іншы погляд на ўладаньне зямлёю і лесам, чым у паноў. „лес на патрэбу ўсім людзям, а вы разбоямі запанавалі гэтым лесам. А я прышоў, каб адабраць у вас гэтую пушчу і даць усім людзям". Народны ўтварыцель шчасьця далёк ад жаданьня захапіць уладу над людзьмі ў свае рукі. „Не затым я прышоў, каб сьветам панаваць, а затым, каб аслабаніць сьвет ад паноў, бо ўсялякі чалавек, сам сабе пан. А хто хоча быць панам над другімі людзьмі, той мой вораг". Далей Асілак кажа: Браткі, калі-б паноў чорт узяў тады-б сьвет бяды ня меў; а без гарапашнікаў-мужыкоў ня было-б ні хлеба, ні асмакоў. А каб гэтая ліха зламаць, трэба ўсім, як адзін чалавек стаць, ня грызьціся паміж сабою, ды ад варагоў бараніцца гурбою".

Такім чынам народ, дзякуючы той вялікай моцы, якую меў ён заўсёды, той вялікай надзеі, што хутка прыдзе лепшая доля, дачакаўся свайго вызваленьня, бо з ім быў сталы, самы лепшы саюзнік—гісторыя, а так сама і яго ўласныя жыцьцёвыя пачуцьці. Гэты багатыр увесь свой век змагаўшыся з балотамі, з голадам, з дзікімі зьдзекамі паноў, ня гледзячы на гэтыя дрэнныя умовы, усё-ж тыкі ня зьнішчыў у сябе „дух жывы", дзякуючы чаму, яго душа, як „Эолава гарфа" адклікалася на ўсё лепшае, імкнулася к гэтаму лепшаму. Ня дарма ў казцы „Музыка народ сьведчыць аб тым, што, слухаючы музыку „ім здаецца, што якаясь сладыч улілася ім у сэрцэ, а якаясь сіла ухваціла на плечы і нясе, ўсё ўгору і ўгору, к ясным зоркам, у чыстае неба, у чыстае, сіняе шырокае неба".

З такім жыцьцёвым пачуцьцем народ дасягнець лепшага жыцьця, бо ён заслугоўвае гэтага лепшага жыцьця.

Ч. Гурэвіч.

# Мінулае піанэр-руху.

За некалькі год да арганізацыі ў Воршы першага піанэр-атраду пачаўся дзіцячы рух на Паціянаўскай вуліцы.

Дзеці гэтай вуліцы заўсёды розьніліся ад другіх дзяцей, сваеі калектыўнасьцю і арганізованасьцю.

Пачалося з гульняў у „індэйцаў“, жаўнераў, у бойкі з крэпасьцямі, гошпіталямі і ўрэшце вылілося ў арганізованую другую гульню.

Была ўзбудавана цэлая дзяржава. Кіравала гэтай дзяржавай „правіцельства“ з 5-7 чалавек на чале з каралём (зараз намесьнікам правадыра атраду імя т. Дзяржынскага - І Гурэвічам).

Дзяржава мела сваё войска у 12-18 чалавек, якое атрымлівала пэнсію ад дзяржавы.

Пэнсія выдавалася грашыма. Спачатку замест грошы хадзілі розныя шаманкі ад цукерак, на якіх кароль лажыў сваю пячатку. Потым ужо грошы пачалі друкаваца на добрай паперы і забясьпечваліся золатам іначай алавянымі кружочкамі, якія пераліваліся з куль.

Грошы мелі свае самастойныя назвы: „коза“ (вялікія грошы) „дзеньга“ (дробныя).

Дзеля таго, каб грошы мелі каштоўнасьць, правіцельства арганізоўвала розные гульні на грошы: у карты, рулетку і інш. Потым замест гэтых гульняў арганізаваліся грамадзкіе работы - капаліся пяшчэры на Дняпры, будаваліся крэпасьці, зьбіраліся каменьня дзеля бояк і. г. д.

Было яшчэ адно мерапрыемства: гэта падаткі на багатых сяброў дзяржавы.

Быў у дзяржавы ўласны коопэратыў з яблыкамі, цыбулей з чужых садоў і агародаў. У коопэратыве былі два служачых на кошт дзяржавы і тры агенты па дастаўцы тавараў.

Быў свой клюб, бібліатэка.

Дзяржава мела свой сьцяг з назвай ПУД (Паціанаўская у Дняпра ПУД была „мэтраполіяй“ якая мела свае „калёніі“.

Аднойчы было паслана войска ПУД на Дняпроўскі пераулак, перамагло яго, зрабіў калёніяй. Адзін з сяброў правіцельства быў назначан у калёніі віцэ-каралём.

Там было ўзбудавана сваё правіцельства падуласнае ПУД“у

Паміж мэтраполіяй і калёніямі існавала свая пошта. Два разы на дзень паштальён, атрымліваючы пэнсію ад дзяржавы, бегаў з мэтраполіі ў калёніі з лістамі на якіх былі дзяржаўныя маркі

Час ад часу ў ПУД“зе зьбіраліся кірмашы.

Прыходзілі калёніі (Дняпроўскі завулак Зялёная вуліца) з сваімі таварамі. Існаваў ў дзяржаве суд. Галоўнымі карамі былі растрэлы каменьнямі, стрэламі ці порка. Выключалі з дзяржавы, накладвалі штрафы.

У дзяржаве былі і дзяўчынкі і хлопчыкі. Дзяўчынак нават было больш, чым хлопцаў і яны былі самымі баявымі, актыўнымі.

Часта на мэтраполію нападалі банды, аб'яднёны „плямёны. Племям лічылася некалькі дзяцей, сябруючых паміж сабой і маючых назву па аднаму з правадыроў, напрыклад „Меераўскае племя".

Яны некалькі разоў з агнём і мячом праходзілі па краю, руйнавалі крэпасьці, лаўкі і г. д.

Зброяй служылі каменьня, гнілыя яйкі і г. д. За адвагі ў бойках выдаваліся мэдалі. Шмат дзяржаўнікаў хадзіла з зьвязанай галавой, але з мэдалямі на грудзёх.

Былі бунты і ў калёніях. Аднойчы ў галоўнай каленіі быў бунт-рэволюцыя, Знайшлася баявая дзяўчынка, якая рашылася вызваліць калёнію ад грабіцельскага ПУД"у і ўзбудаваць незалежнае гаспадарства.

Віцэ-кароль здрадзіў і перадаў аб загаварэ правіцельству.

Бунт быў падаўлен, на калёнію наклалі вялікую контрыбуцыю, а галоўную кіраўніцу прысудзілі да растрэлу каменьнямі.

Крыху пазьней, ужо пасьля ўнутранай рэвалюцыі, замест каралеўства была ўзбудавана рэспубліка з старшынёю і г. д.

У гэткія формы выліваласяа актыўнасьць і энэргія дзяцей гарадзкой беднаты.

Калі ў чэрвені 1923 г. зьявілася 1-ая абвестка аб арганізацыі атраду піанэраў, сябры дзяржавы першыя запісаліся ў атрад, зьявіліся сапраўднымі піанэрамі ў Аршанскай піанэрыі.

## Перапіска з чытачамі.

Першы нумар „Аршанскага Маладняка" быў выдадзены з значным удзелам працаўнікоў Ц. Б. Маладняка, затым што толькі заарганізованая тады наша філія не магла поўнасьцю сваімі сіламі выдаць часопісь.

Як вялікае дасягненьне, мы лічым тое, што другі нумар нашай часопісі мы выдаем амаль што, выключна сваімі сіламі*), што моладзь Аршаншчыны адазвалася на зазоў філіі і прыняла дзейны ўдзел у яе працы.

Далейшыя выпускі „Аршанскага Маладняка" па меры мажлівасьці (мяркоўна праз 2-3 месяцы), а гэтак-жа выхад акруговай газэты, дазволяць нам больш шырока разгарнуць нашу працу, выявіць нашыя сілы і, пад агульным кіраўніцтвам Ц. Б. Маладняка, павесьці нашу маладую мастацкую творчасьць па новаму шляху.

Шмат матар'ялу, дасланага к гэтаму нумару, застаецца не скарыстаным; частку яго мы маем на мэце скарыстаць у наступным нумары, частка яго слабая па сваей апрацоўцы, альбо па зьместу і надрукавана ня можа быць. Ні-

*) За выключэньнем артыкула М. Зарэцкага: „Пра майго прыяцеля".

жэй, у вагульных рысах дадаём характарыстыку надасланага нам матар'ялу і выказуем пажаданьне, каб аўтары яго у часе прыезду ў Воршу, наведаліся-б да рэдакцыі „Аршанскага Маладняка“, дзе рэдакцыя пастараецца разабраць больш дасканальна ўсе недахопы, якія сустракаюцца ў матар'яле і даць тыя ці іншыя парады.

— **Рыбакоў**—Копыскі раён. „Успамінак“ слабаваты. Патрэбна больш сталая апрацоўка і знаёмства з тэхнікай пабудовы верша.

— **Барташэвічу**—м. Круглае. Частку скарысталі, частку скарыстаем у наступным нумары.

— **Мяжэвічу**—Копыскі раён. вершы „Першая ластаўка“, „У клюбе“ „Бура“ вельмі слабыя. Патрэбна азнаёміцца з аснаўнымі законамі пабудовы верша. Папрабуйце пісаць апавяданьні з вясковага й камсамольскага жыцьця.

**Базыленка**—Багушэўскі р. „Сьвята“ к друку не падыходзіць, напісана слаба, без належнай апрацоўкі, задоўга, шмат русыцызмаў і мала паэзіі. Пішэце карацей і больш стала апрацоўвайце.

**Віру**—Коханаўскі раён. Вясковы фэльетон „Зоська“ к друку не падыходзіць. Звычайны факт і апісаны звычайна; дзеля фэльетону патрэбна больш жывасьці й гумару. Фэльетон „Зоська“ падыходзіць больш к звычайнай газэтнай заметцы.

— **Кошалю**—Чыгуначны полк. Адно з вашых апаваданьняў друкавалася ў газэце „Сав.-Бел.“—перадрукоўваць ня варта. Другое—па свайму сюжэту слаба і апісана зблытана. Трэба сюжэт апрацоўваць выразна і яскрава, да і сам сюжэт браць больш цікавы. Прысылайце што небудзь новае, больш старанна апрацаванае.

**Чарняўскаму**—Аршанскі раён. Старайцеся больш апрацоўваць і пісаць на чыстай беларускай мове, без русыцызмаў. Магчыма што небудзь скарыстаем. Прысылайце больш.

**Цехановічу**—Ворша, **Н-му-Горкі**—скарыстаем у наступным нумары.

---

# Хроніка.

На пасяджэньні Аршанскай філіі ад 13 Лістапада кандыдаты Маладняка-Клюйко і Малевіч пераведзены ў сапраўдныя сябры Маладняка, уноў залічаны ў сябры Кляшторны і Барташэвіч і ў кандыдаты—Мяжэвіч і Чарняўскі.

На 25 лістапада зззываецца Ўсебеларускі Маладнякоўскі зьезд з наступнай павесткай дню:

1. Справаздача Ц. Б. і садаклад філіі.
2. Шляхі разьвіцьця мастацкай літаратуры у умовах дыктатуры пролетарыяту.
3. Організацыйныя пытаньні.
4. Вытворчы плян Маладняка.
5. Праца сэкцыі.

6. Пэравыбары Ц. Б.

Перад Усебеларускім зьездам Маладняку, 19 лістапада адбудзецца агульны сход Аршанскай філіі з удзелам прадстаўнікоў Ц. Б. з наступнай павесткай дню.

1. Справаздача бюро філіі.

2. Маладняк, літдыскусія і пастанова Ц. К. Партыі

4. Маладняк і суседнія літаратуры.

4. Стан сучаснай беларускай літаратуры і іншыя галіны мастацтва.

5. Выбары бюро і делегатаў на Ўсебеларускі зьезд.

Інстытут Беларускае культуры вядзе падрыхтоўчую працу к созыву ў гэтым 1926 г. Усясьветнага беларускага навуковага кангрэсу. Чакаюцца прадстаўнікі з Амэрыкі, Італіі, Францыіі, Нямяччыны і інш краін.

— Зараз Інстытутам Беларускае культуры ўзьнята пытаньне аб перадачы яму „Літоўскай Мэтрыкі“, якая захоўваецца ў Маскве ў б. архіве Міністэрства юстыціі. Местам захаваньня Мэтрыкі ёсьць меркаваньне зрабіць г. Воршу, якая мае добрую зялезна-дарожную сувязь з культурнымі асярод. Саюзу, як Ленінград, Масква, Кіеў, гэтак і з гарадамі Беларусі як Мэнск, Віцебск, Магілеў. Аршанскі Спаўняючы камітэт мяркуе прадаставіць дзеля захаваньня Мэтрыкі муры Трынітарскага кляштару.

Рыхтуецца к друку трэці нумар Аршанскага Маладняка. Матар‘ял трэба накіроўваць па адрасу Акружкамолу.

---

*Рэдактар:* ***Рэдакцыйная колегія.***

Ворша, друк. выдав. газ. „Кам. шлях“ зак. 2389—1500 паас. Аршакрліт (Бел) 12618

## Вышлі з друку настунныя маладнякоўскія творы:

*(выданьні ЦБ Маладняка).*

1. **М. Чарот**—Выбраныя вершы . . . . . . . —15 кап.
2. **Ул. Дубоука**—Там дзе кіпарысы *(поэма)* . . . . . —15 кап.
3. **К. Чорны**—Апавяданьні . . . . . . . . . . —20 кап.
4. **А. Бабарэка**—Апавяданьні . . . . . . . . . . —20 кап.
5. **Я Пушча**—Раніца рыкае *(вершы)* . . . . . . . —15 кап.
6. **Крапіва**—Асьцё *(сатыры)* . . . . . . . . . —15 кап.
7. **Маладняк Янку Купалу**—*(юбілгйны зборнік)* . . . . —25 кап.
8. **С. Хурсік**—Першы паўстанак *(апавяданьні)* . . . . . —20 кап.
9. **М. Зарэцкі**—Пела вясна *(апавяданьні)* . . . . . . —20 кап.
10. **А. Якімовіч**—Вершы . . . . . . . . . . —15 кап.

## Выходзяць гэтымі днямі:

11. **П. Трус**—вершы.
12. **К. Чорны**—Срэбра жыцьця (апавяданьні).
13. **А. Дудар**—Сонечнымі сьцежкамі (вершы).
14. **А. Гурло**—вершы
15. **М. Чарот**—Карчма (*поэма*).
16. **А. Александровіч**—Сутарэньне *(апавяданьні)*.
17. **Крапіва**—апавяданьні—сатыры.
18. **А. Вольны**—Чорнакудрая радасьць *(тры поэмы)*.
19. **А. Дудар**—Шанхайскі шоўк *(поэма)*.
20. **Слуцкія песьняры**—(П. Шукайла, Сукалк, Атава, Відук, Чырвань).
21. **З. Бондарына, Вішнеуская, Е. Пфлямбаум**—вершы.
22. **О. Уайльд**—Баляда Рэдынгскай турмы *(перакл. з ангельскай Дуброўскага)*.
23. **Я. Пушча**—Vita (вершы).
24. **Ул. Дубоука**—Credo (вершы).
25. **Звонак, Бобрык, Туміловіч**—вершы.

Апрача таго ў Дзяржауным Выдавецтве вышаў з друку цэлы шэраг маладнякоўскіх твораў. **Сачыце за кнігасьпісамі !!!**

